## ЗЬМЕСТ




Нумар здан у набор 13-III—32 г.
Падпісан да друку 3-IV—32 г.
Адказны рэдактар Міхась Чарот.
Адказны сакратар Я. Шарахоўскі.
Нумар набран і зьвёрстан брыгадай імя 13-га Кастрычніка, па макету А. Тычыны.
Карэктар З. Варатынская.
Кліша выканаты ў цынкаграфіі ДзВБ.

ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 59. Тэлефон 17—09.

ЛЮТЫ 1932 № 4





# Палкоўнік Бурдыкін

В. СТАШЭЎСКІ

Паўднёвае сонца рашуча павярнула за яйлу. Стары прафэсар на прынабярэжным скверы наводзіць свой „планетарый“. За 20 капеек увесь нябесны сьвет, як на далоні. З надморскага рэсторана вы чуеце стогн і крык „Шаміля“. А на скверы паўнютка курупраўцаў, цустрахаўцаў і так вольных „грамадзян. Раптам ззаду ці збоку каманда: „Горячие пирожки!“ і праходзіць высокая, гордая постаць. Выдае піражкі, прымае грошы і ноль увагі на пакупніка. Можна падумаць, што гэта стары прафэсыянальны пірожнік.

Але-ж чаму прафэсар-астроном так нізка здымае сваю памятую шапку, а гэты пірожнік так зьлёгка бярэ пад казырок? Даволі вам азірнуцца на публіку і вы ўбачыце чыю-небудзь усьмешлівую фізіономію. У чым рэч? Няўжо такія смачныя піражкі?

— „Гм, я думаю. Сам палкоўнік прадае“. І далей раскажуць вам цэлы стос рамантычных прыгод гэтага „антырэлігійнага гэроя“.

І што вы думаеце? Уласнымі рукамі спусьціў айца Алексія на дно морскай пучыны і сам вышаў сустракаць чырвоных перакопаўцаў. „Приветствую,—кажа,—попа обронил на дно, гидру потопил“. А айцец Алексій такі, што апрача сваё асноўнае профэсіі займаўся тым, што наводзіў Урангелеўскія кулі на „неблагонадежных“. А палкоўнік Бурдыкін гэта—не палкоўнік, а вынаходца. А жонка былога айца Алексія гэта ня матушка, а арамат цудоўных піражкоў. Бурдыкін яго даўно занюхаў.

— Сірата ты мая Валенці-інушка бяспрытульная, — кажа Бурдыкін ёй.

— А ці ня ты асіраціў мяне, Ягор Самсонавіч, і з бяспрытульнай насьміхаешся?

— Ладна, давай заводзіць новае пролетарскае жыцьцё, комунай жыць.

— А то як-жа інакш,—адказвае матушка,—хіба я згадзілася-б на „потопление“?

— Няхай падзякуе хоць на тым сьвеце, што ўсё-такі ад свае рукі пайшоў у „преисподнюю“. Даруй, госпадзі, яму і нам,—перахрысьціўся Бурдыкін. Матушка таксама.

— Ну, зьбірайся, Валенціна. Кватэрка ёсьць.

Праз некалькі дзён на Бязбожніцкай у доме № 37 кватэра бяз нумару напоўнілася пахам гарачых піражкоў.

Першы выхад Бурдыкіна на вуліцу са скрынкаю знаёмыя сустрэлі пагардліва. Кажуць, нейкія дзьве падмочаныя дамы прышлі і прасілі Бурдыкіна ня ганьбіць іх. Не паслухаў. Тады яны ўвечары заступілі на вуліцы, злосна трэслі парасонікамі, пагражалі зьніштожыць. Бурдыкін яшчэ вышэй падымаў галаву: „Ворагі мяне ня любяць—значыць я правільна дарогаю іду: „Горячие пирожки! Чудесные свежие пирожки!“

Але піражкі гэта што, гэта толькі надбудова, новая надбудова. А база, база, старая: шынэлі, шаблі, пагоны, мундыры, з аднаго боку, і расы, падрасьнікі, камілаўкі, кадзілы—з другога. Што за база ў нашы рэволюцыйныя часы, цяжка ўявіць. Аднак, можна выразна ўявіць, калі не глядзець на клюбнае жыцьцё гэтага невялікага гораду. Тут клюбы імя Томскага, Луначарскага, Розы Люксэмбург і шмат іншых. Клюба імя Леніна чамусьці не знайшлося. Прынамсі работа памянёных клюбаў у першыя гады здаецца ня зусім адпавядала такому імю. Дык вось Валенціна і Бурдыкін былі ў той час „імпэрарскай“ касьцюмэрнай.

У клюбах не існавала такой пастаноўкі, якой-бы Валенціна (а яна вядома была чамусьці пад назваю „Валенсіно“) не забясьпечыла поўным рэквізытам. У гэтай справе Валенсіно была надзвычайным мастаком. Яна магла ўперці на пракат турэцкую феску і тады, калі па п'есе яна зусім непатрэбна была. Бурдыкін у гэту справу ня ўмешваўся, а аднаго разу ён з-за шырмы слухаў размову рэжысэра з мадам Валенсіно: рэжысэр зьбіраў для аднае пастаноўкі ўсе вайсковыя касьцюмы і амуніцыю і скардзіўся:

— Сёньня мне не пашанцавала, выехалі два актора. Аднаго заменім, а з другім ня ведаю, што рабіць. Роль, бачыце, невялікая, але, ведаеце, патрэбен тып, такі, ведаеце, здараўенны гэнэрал.

Бурдыкін вышаў.

— Не хапае, кажаце, генэрала?

— Так, ведаеце. Вось вы былі-б генэрал натуральны!

— Быў-бы... Ясна, што быў-бы, дык-жа вы не захацелі!

— Дык-жа мы ня ведалі, што вы можаце іграць.

— Іграць? Іграць не. Хто іграў, той дайграўся.

— А роль невялікая, суфлёр у нас добры, выручайце, будзем вельмі ўдзячны.

— Генэрала?

— Генэрала. Ролі вучыць ня трэба. Раз прачытаеце і будзеце мець поўнае ўяўленьне. Там, разумееце, так: чырвоныя ціснуць...

— Каго, нас?

— Ну, так, белых. Генэрал дае катэгарычны загад прапаршчыку Малчаліну стрымаць на лініі чыгункі. Малчалін адказвае, што нельга стрымаць, па тэлефону адказвае, пры гэтым адказвае даволі груба.



Раптам каманда: „Горячие пирожки“!

МАЛЮНКІ М. ПАШКЕВІЧА

— Мярзавец!—буркнуў Бурдыкін.
— Дык вы-ж ведаеце ролю! Гэта-ж словы генэрала!
— А то як-жа інакш ён мог сказаць. Арыштаваць трэба за грубасьць.
— Я ўпэўнены, што вы ігралі гэту ролю. Генэрал крыкнуў: „арыштаваць!"—і павесіў трубку. Паімчаліся яго арыштоўваць, а прапаршчык з ротаю салдат і з кулямётам перайшоў да чырвоных.
— А можа чырвоныя захапілі яго?
— Не, па п'есе ён сам перайшоў.
— Гм!—задумаўся Бурдыкін,—э-э... так бывала... з некаторымі бывала.
— Значыць, іграем?
— Ладна, вечарком падыду.

---

Пасьля другога званка Бурдыкін прачытаў сваю ролю, рэжысэр пазнаёміў з мізансцэнамі і пайшло. Ды так іграў, што ў другім акце рэжысэр падскокваў ад задавальненьня. Генэрал так разышоўся, што не зважаў на суфлёра, даваў такую адсябяціну, што пазьбіваў усіх партнёраў: казыраюць, стукаюць шпорамі, слухаю-сь, так точна. Вынаходлівы рэжысэр пачаў за сцэнаю лементаваць: „нас абкружылі! Ваша прэвасхадзіцельства, абкружылі!" Другія свабодныя акторы затупалі нагамі: „го, го! аля-ля! Абкружы-лі!" Рэжысэр: „Гайда на коні! Давайце заслону!" Партнёры генэрала забегалі па сцэне, а сам генэрал такі сапраўды здрэйфіў, разьвёў рукі, лыпае вачыма. Далі заслону і акт закончыўся жыва і нават бурна.
— Што ён нарабіў? — абураўся актор-паручык,—сарваў сцэну!
Тут падбег рэжысэр:
— Цудоўна вышла, надзвычайна! Мажліва ў другі раз так трэ' будзе канчаць гэты акт.
Бурдыкін задаволены пагладжваў прыклееную бараду і казаў:
— У апошнім акце ня так яшчэ сыграем.
— Так, у апошнім акце дамо вам гарачыні, — адказаў актор-матрос.
— А гэта мы яшчэ паглядзім,—буркнуў Бурдыкін.
У апошнім акце генэрала павінны разброіць. Ён выме шаблю, будзе абараняцца. Трэба спрытна ўзяць яго.
— Майце на ўвазе,—кажа актор-матрос сваім партнёрам,—ён, халерны, разыдзецца, размахаецца шабляю і калі мы яго ня возьмем, дык выйдзе ідэолёгічны скандал і спэктакль будзе сарваны. Я сам схаплю яго за руку, ты, Ванька, за горла, а Лёня з Давыдам паставяць штыкі.
— На рэпэтыцыі я хапаў за руку,—заўважыў Давыд.
— Няважна. Я спрытней хватану.
— Пачынаем апошні акт,—гукнуў рэжысэр,—акторы на свае месцы! Генэрал, сядайце за стол. Вытрымайце, калі ласка, паўзу пакуль заспакоіцца публіка.
— Будзьце спакойны, публіка будзе сядзець як на іголках,—адказаў Бурдыкін і заняў сваё месца.
Адкрылі заслону, а ў залі нібы на кірмашы.
— Вытрымайце паўзу,—шэпча Бурдыкіну рэжысэр. А Бурдыкін гаркнуў:
— Сьмірна!—і стукнуў кулаком па стале. Суфлёр падскочыў і стукнуўся галавою аб будку.
— Што ён дурака валяе?—пытае адзін актор рэжысэра.
— Ня важна,—адказвае той,—заўважце,—пачынаюць сунімацца. Сенька, уваходзь, рапартуй.
Сенька-паручык увайшоў, дзея пайшла. Зьява за зьявай і набліжаецца фінал. Генэралу пара ўжо хваляваццa, а ён і ня думае, дастае папяросу, зьбіраецца закурыць. Захваляваўся рэжысэр, шэпча:
— Хвалюйцеся, генэрал, бо зараз налёт.
Бурдыкін не зважае.
— Хвалюйцеся, хвалюйцеся!
Бурдыкін наблізіўся да шчыліны, з якое выглядае рэжысэр і адказвае:
— Пусьцякі, яшчэ пайграем.
Стук у дзьверы.
— А ну-ка гляньце—паручык,—скамандаваў генэрал. Паручык прыадчыніў дзьверы.
— Ваша прэвасхадзіцельства! Чырвоныя!
— Не здавайся!—скамандаваў генэрал і выхапіў шаблю. Афіцэры таксама выхапілі шаблі, панастаўлялі наганы, глядзяць на дзьверы, як ты цяпер будзеш патыкацца.
Матрос тады нарушыў умоўнасьць сцэны, скочыў ззаду генэрала, схапіў яго за абедзьве рукі, за ім ускочыла чалавек шэсьць салдат і пачалася калатніна. Афіцэры здаліся так, як палагаецца, а генэрал вылузваецца. Тут на яго ўсьселі. Ракам стаіць, раве, а не здаецца. Тузаюць яго хлопцы, адклеілі бараду, а ён усё хоча падабраць пад сябе матроса. Рэжысэр сам так захапіўся, што высунуў галаву і рагоча.


Тузаюць яго хлопцы.

— Заслону!—крычыць суфлёр,—Заслону!
А заслоншчык таксама аж прысеў ад сьмеху. Схамянуўся рэжысэр, далі заслону. Падняўся генэрал.
— Ну, як?—пытае матрос,—хто каго?
Адкашляўся Бурдыкін і адказвае:
— Гэта шчасьце тваё, што на сцэне, а так ня ўзяў-бы ты мяне.
А матрос адказвае яму:
— Гэта шчасьце тваё, што ў спэктаклі мы схапіліся, а то канцы былі-б табе.
З залі на сцэну ўскочыла Валенсіно.
— Хіба так палагаецца душыць чалавека, што-ж вы на самым дзеле?..
— Нічога, мадам Валенсіно,—заспакойвае рэжысэр.—Сыгралі на яць. Сапраўдны актор можа забыцца пра ўсё на сьвеце. Сам Фёдар Іванавіч Шаляпін па сапраўднаму б'е ў морду. А адзін мой добры сябра, таксама выдатны актор, рэўнасьць іграў, а яго любімая жонка здрадніцу, дык ён так увайшоў у ролю, што замест аднаго сцэнічнага ўдару нажом па-сапраўднаму пырнуў два разы ў грудзі, раз у падлогу і два ў жывот. А гэта яшчэ нічога, мадамачка Валенсіно, нічога.

---

Бурдыкін толькі на чацьверты дзень вышаў з піражкамі. Тры дні вылежваўся. На гэтым-бы артыстычная дзейнасьць Бурдыкіна скончылася, каб не пранырлівае вока кіно-работнікаў. Нехта-ж з іх быў на гэтым спэктаклі і заўважыў добрага генэральскага тыпа. Аднаго разу зьявіўляецца пасыльны ад кіно-рэжысэра.
— Вас, таварыш Бурдыкін, просяць зайсьці на кіно-фабрыку.
— Нікуды ён ня пойдзе,—адказала Валенсіно.
Бурдыкін таксама меў намер адказацца, але такі катэгарычны загад Валенсіно ў прысутнасьці чужога чалавека прыніжаў яго самастойную асобу. Ён глянуў і Валенсіно крыху здэтанавалася.
— А да каго там зьвярнуцца?—пытае Бурдыкін.
— Да рэжысэра, габінэт № 9.
Вышаў пасыльны. Адкрылася сямейная нарада. Парашылі: пайсьці трэба. Нават узяць ролю, калі прапануюць, толькі такую, каб не компромэнтавала гонар мундыра. Бутафорыю-ж таксама трэба шанаваць.
Бурдыкіну вельмі пашанцавала: яму даручылі консультаваць парад старое расійскае арміі і ў ролі палкоўніка прыняць парад. І далей ёсьць такі кавалачак, калі гэты самы палкоўнік п'яны робіць допыт чырвонаармейца. Рэжысэр схэматычна тлумачыць, што чырвонаармеец трымае сябе пагарда, нават абражае палкоўніка. Палкоўнік дае загад: расстраляць! Чырвонаармеец ускаквае на стол і зварочваецца да салдат, якія прывялі яго, каб яны стралялі ў палкоўніка. У гэты момант прысутны тут штабс-капітан выхоплівае наган і страляе ў чырвонаармейца.



**Далейшы маршрут вызначыў міліцыянэр.**

— Значыць ня я страляю?—запытаў Бурдыкін.

— Не, страляе штабс-капітан.

— Ну, добра, бо я гэтага па сваіх пераконваньнях зрабіць не магу.

— Ну, так,—пацьвердзіў рэжысэр. А каб заахвоціць Бурдыкіна, ён загадаў зараз-жа выдаць аванс.

Лёгка Бурдыкін ішоў дадому. Гэта-ж колькі трэба панасіць піражкоў пакуль заробіш такую суму, як гэты аванс. А яшчэ-ж колькі атрымае пасьля.

— Ну, як, Самсон мой?—пытае Валенсіно.

— Прымаю парад. А вось і авансік. Палкоўніка іграю. Хоць у карціне пакамандую.

У той-жа дзень Валенсіно прыладзіла да мундыра палкоўніцкія пагоны. Надзеў Бурдыкін свой мундыр.

— Так, гэта можна сказаць была пара. К цэрэмоніяльнаму маршу!

— Цішэй ты,—заспакойвае Валенсіно.

— Што цішэй? Я актор і маю права рабіць рэпэтыцыю.

— Ох, калі-б гэта была сапраўдная рэпэтыцыя...—уздыхнула Валенсіно.

— А ты ня ўздыхай, са мною не прападзеш.

— Ды я на цябе не маракую, а толькі як-бы я шчасьліва была, калі-б ты заўсёды так выглядаў.

— Э-э... гэта ня штука, мілая, а ты вось пакахай нас чорненькімі, а беленькімі ўсякая такая нас пакахае і, як гаварыцца, за руб з палцінай палцуе.

— Эх, Самсонік мой падстрыжаны,—абняла Валенсіно Бурдыкіна за шыю. А ён пахлопаў яе па мяккай частцы цела.

— Ну, ладна ты, чайка падстрэленая.

Павуза, і Валенсіно засьпявала:

Вот вспыхнуло утро,
Румянятся воды,
Над озером белая чайка летит.
Ей много простора,
Ей много свободы,
Луч солнца у чайки
Крыло серебрит.

— Сьцялі пасьцель, Валенсіно, а заўтра раніцою на парад.

— І гэта ўся твая роля?—запытала Валенсіно.

— Не, ёсьць яшчэ сцэна другога парадку. Я павінен быць п'яны і дапрашываць злоўленага нашымі чырвонаармейца.

— Не згаджайся на гэта, Самсонік, бо ён табе нагрубіць, і, наогул, можа быць няпрыемнасьць з такое карціны. Я цябе прашу, ня зьвязвайся ты і не паказвай сябе такім, якім ты быў некалі.

— Ня бойся, Валенціна, гэта-ж кіно-карціна. Я тут выступаю не як палкоўнік, а як актор, які выконвае ролю палкоўніка. Ды што казаць—усё жыцьцё наша гэта—вялічэзная сцэна, на якой часта адзін спэктакль цягнецца дзесяткі гадоў. Дзесяткі гадоў, век свой актор выконвае адну ролю. І раптам зьяўляецца новы актор, новы рэжысэр, новыя ролі, новыя акторы. Хто са старых актораў здолее выконваць гэтыя новыя ролі, значыць застаецца, а не—каленкам пад гэтае самае месца. Вось мы і гандлюем піражкамі, бо на сёньнешняй сцэне нам вызначана выконваць такую ролю. Ды фактычна нам і гэтага ніхто не вызначаў. Яно вышла так, ходам падзей на сцэне. Тут, мажліва, мы ўзялі сваім талентам. А хто ведае, можа я кончу сваё жыцьцё выдатным кіно-акторам, а ты атрымаеш дыплём з кухні Цэрабкопа. Ну, лажыся, Валенсіно.

Клацнуў выключацель.

Цёмна.

---

Раненька на ўсходзе сонца Бурдыкін у поўнай абмундыроўцы выходзіў са свае кватэры, садзіўся ў прысланае кінофабрыкай аўто і імчаўся на парад. Прыехалі на вялікі пляц, дзе даволі шмат было салдат, афіцэраў. Машына спынілася каля групы кіно-опэратараў, тут-жа быў і рэжысэр. Ён рашыў пачаць, як кажуць, з месца кар'ерам. Толькі Бурдыкін вышаў з аўтомобіля, чуе каманду:

— Зважай! Раўненьне на сярэдзіну!

Падбягае афіцэр і рапартуе Бурдыкіну. Бурдыкін прымае рапарт як належыць, кіно-опэратар з боку накручвае, рэжысэр прыемна ўсьміхаецца.

Бурдыкін заўважыў:

— Э-э, дазвольце, гэта як-жа выходзіць? Калі па сур'ёзнаму, дыкззаду ў мяне павінен быць ад'ютант.

— Я тут, гаспадзін палкоўнік,—пачуў Бурдыкін голас ззаду. Павярнуўся палкоўнік—стаіць малады прыгожы паручык.

— Гм... правільна, а толькі вас у аўтомобілі ня было, а я заўсёды ежджу разам са сваім ад'ютантам.

— Ну, нічога,—адказвае рэжысэр,—гэта маленькі жарт. Мы заўсёды пачынаем жартам, каб даць усім бадзёрую зарадку на цэлы дзень.

А ў гэты час глянуў на кіно-опэратара: „Кадрык здаецца вышаў выключны“.

Далей пачалася расстаноўка салдат, афіцэраў, іграў оркестр, маршыравалі. Бурдыкін хадзіў, даваў загады, крычаў, разоў чатыры прымаў парад. Адным словам, быў у сваёй ролі. Нарэшце, зрабілі здымак: прыезд палкоўніка, выхад яго з аўтомобіля. Фактычна кончылі дзень тым, чым пачалі. Няхай будзе два аднолькавых кадры. А паколькі абсолютна аднолькавых ня бывае, значыць адзін павінен быць лепшы, а другі горшы. Усе былі ўпэўнены, што пачатак быў лепшы. Бурдыкін быў больш палкоўнікам, чым актарам.

— Ну, ад'ютант,—зьвярнуўся Бурдыкін да актора-ад'ютанта,—прашу на шклянку чаю.

— Слухаю, пане палкоўнік, толькі пераадзенуся.

---

Праз невялікі час за сталом сядзелі: мадам Валенсіно, актор і Бурдыкін у поўнай форме. Выпілі ніштавата. З захапленьнем Валенсіно глядзець на свайго Самсоніка, але, каб паказаць перад акторам сваю лояльнасьць да нашага часу, яна заўважыла Бурдыкіну:

— Скінуў-бы ты гэтую бутафорыю.

Бурдыкін прутам паставіў шыю.

— Бутафорыя кажаш? А можа, калі яна на мне, дык гэта зусім і не бутафорыя?

— О, правільна,—адказвае актор,—люблю за шчырасьць і дазваляю сабе пацалаваць мадаме ручку.

Валенсіно з прыемнасьцю падала руку, а Бурдыкін падняўся і пацалаваў актора.

У гэты час увайшла адна знаёмая гаспадароў кватэры і папрасіла мадам Валенсіно зайці да іх зараз-жа неадкладна. Валенсіно пашла. Актор, відаць, ня зусім быў задаволены. Вось толькі ўзяўся за руку пульхнае жанчыны і раптам няма. Сумна.

— Налівайце, палкоўнік.

— О, люблю (наліў). А Валенціна, як відаць, пашла прымаць новага чалавека. Яе часам завуць на такія опэрацыі і, павінен сказаць, што і тут яна мае вялікія здольнасьці. Вып'ем і за акторскія здольнасьці.

На двары расьцілаўся змрок.

Бурдыкін у поўнай форме і актор, абняўшыся, пашлі па вуліцах з песьнямі. Суседзі любаваліся гэтым выхадам. А далей публіка таксама спынілася і ўглядалася ў гэту музейную навіну. Той, хто чуў аб сёньнешніх кіно-здымках, паглядаў, дзе тут знаходзіцца кіно-апарат. Адзін міліцыянэр таксама ўсьміхаўся, паглядаючы. Але, калі гэрої прайшлі на скрыжаваньне вуліц, дык тут публіка пачула сьвісток. Сабраўся натоўп народу і „гэроям“ далейшы маршрут усё-такі вызначыў міліцыянэр. „Гарачыя піражкі!“ крычаць дзеці, бягучы ззаду. Вось пацышлі ўжо да будынку райміліцыі. Тут наганяюць „процэсію“ два кіно-работнікі:

— Таварыш міліцыянэр, адпусьціце, гэта нашы, з фабрык. Ім трэба зараз здымацца.

Міліцыянэр не зважае, вядзе. А Бурдыкін ідзе і тлумачыць актору і гэтаму міліцыянэру:

— Салдат на парадзе штыхом павінен стаяць. Вольна! Гаспада афіцэры!

На ганку стаяў старшы міліцыянэр. Кіно-работнікі падбеглі да яго:

— Таварыш міліцыянэр, адпусьцеце, гэта нашы акторы, яны павінны зараз-жа здымацца.

— Гэта ваш актор?—пытае старшы міліцыянэр, паказваючы на Бурдыкіна.

— Так, ён сёньня ў ролі палкоўніка прымаў парад.

— Грамадзянін Бурдыкін,—зьвярнуўся старшы міліцыянэр,—вы сёньня каго разыгрываеце.

Бурдыкін лыпнуў вачыма.

— Вввазьмі пад казырок, сукін сын, і стаць вва фронт!

— Но, но ты, контррэволюцыя хадзячая,—заўважыў малодшы міліцыянэр.

— Забірайце іх,—кажа старшы міліцыянэр кіно-работнікам,—і глядзеце, каб іх на вуліцы ня было.

Узялі двух рамізьнікаў і паехалі на фабрыку.

Там адбываліся павільённыя здымкі. Рэжысэру далажылі, што Бурдыкін у поўнай форме і п'яны знаходзіцца тут, ад міліцыянэра выручылі. Успомніў рэжысэр, што Бурдыкін не ахвотна згаджаўся іграць у сцэне з допытам чырвонаармейца.

— Давайце яго сюды!

Прывялі ў павільён, палажылі на канапу. Выклікаў рэжысэр яшчэ двух актораў.

Ляжыць Бурдыкін, мармыча, камандуе парадам, лаецца, кіно-работнікам весела. Праз гадзіны паўтары пачаліся здымкі з удзелам Бурдыкіна: афіцэры прапануюць Бурдыкіну выпіць. Ён п'яны, трымае ў руках бакал. „За адзіную недзялімую"—выгукнуў адзін. Бурдыкін паўтарыў і дадаў па адрасу бальшавікоў такія славечкі, якія ня ўспрымае ня толькі вялікі нямы, а і гука-фільм. Салдаты прывялі чырвонаармейца.

— Ваша высокаблагародзіе, злавілі чырвонага разьведчыка.

— Давайпе, давайце яго сюцы. Ну, што-ж ты, у штаб прабіраешся?

— Куды трэба, туды і прабіраюся,—адказвае чырвонаармеец.

— А ты ведаеш з кім гаворыш?—крыкнуў Бурдыкін,—ты ведаеш, што я магу зрабіць з табою?

— На хвост солі не насыплеш,—адказвае чырвонаармеец.

— Я цябе расстраляю, нягоднік!

Тут чырвонаармеец ускочыў на стол:

— Таварышы! Накіруйце свае кулі вось у каго, беце залатапагоньнікаў! Далоў Бурдыкіна і яго гарачыя піражкі.

Штабс-капітан навёў на чырвонаармейца наган, а каб чырвонаармеец спрытней упаў, статыст з боку вінтоўкі: Бах!

Чырвонаармеец упаў. Штабс-капітан палажыў наган у кабуру.

Бурдыкін заморгаў вачыма, трасянуў галавою, лыпнуў:—Э-э, дазвольце, гэта, здаецца, кіно-здымкі, ці???.

## РЫХТУЕМСЯ ДА АБАРОНЫ СССР









Група комсамольцаў дэлегатаў конфэрэнцыі. У другім раду т.т. Кагановіч, Молатаў, Сталін, Варашылаў, Орджонікідзе, Постышаў, Будзённы.

# ВЫНАХОДЦЫ бальшавіцкіх ТЭМПАЎ

Л. ШАПІРА.

Слова „вынаходнік“ мае ў сабе бязьмерныя крыніцы энэргіі, нязьведаныя паклады творчага энтузіязму.

Вынаходніка-рацыяналізатара вы сустрэнеце ў камандзіра часьці, камісара, у партячэйцы, у рэдкалегіі, у тыру, на канюшні, у санчасьці, у ленкутку. У кожную свабодную мінуту ён піша, чэрціць, вылічвае. Мысьль яго бесьперапынна працуе над тым, як-бы лепш арганізаваць вучобу, рацыяналізаваць час. Сэрца неадступна імкнецца унесьці што-небудзь каштоўнае ў фонд баявой падрыхтоўкі.

Глядзельная заля менскага дому Чырвонай арміі перапоўнена да адказу. Дэлегаты 2-га гарнізоннага зьлёту рацыяналізатараў і вынаходцаў з напружанай увагай слухаюць прамову начпадзіву 7. Вушы пільна ловяць словы, якія выстрайваюцца ў лёзунгі і баявыя задачы. Над сцэнай лёзунгі:

„Баявое прывітаньне рацыяналізатарам і вынаходцам гарнізону.“ „Увага і дбайнасьць вынаходніцкаму руху!“

Трудны шлях вынаходніка. Вынаходніцтва, якое доўга вынашваецца ў галаве вынаходніка, ня так лёгка ператварыць у жывую карысную справу. Перашкоды сустракаюцца на кожным кроку. Аб гэтых перашкодах, труднасьцях дэлегаты гавораць з трыбуны зьлёту.

— Камандаваньне і парторганізацыі слаба кіруюць вынаходніцкім рухам.

Карысныя прапановы доўга марынуюцца пад сукном.

— Недастатковая тэхнічная дапамога вынаходнікам.

— Вынаходніцкі рух б'е з нізоў стыхійна, бяз усякага пляну, кіраўніцтва, рэгуляваньня.

— У баку ад гэтае справы стаяць клюбы часьцей.

— Гаспадарчыя часьці ня ідуць насустрач вынаходнікам. Кавалачак фанэры ці цьвік прыходзіцца выпрашваць са сьлязьмі на вачох.

— Труднасьцяй шмат, але баяцца іх ня трэба,—заяўляе адзін з лепшых вынаходнікаў т. Крывашэін,—трэба агульнымі намаганьнямі дабівацца хуткай рэалізацыі прапаноў і вынаходніцтваў.

---

Самарская кавдывізыя прышла на зьлёт з вялікімі посьпехамі. За адзін месяц у дывізіі сабрана 610 прапаноў па пытаньнях лепшай організацыі вучэбнага дня, скарачэньня прагулаў, прастояў, лішніх нарадаў. Па пытаньнях палепшаньня гаспадарчага і бытавога становішча часьцей, што спрыяе ўзмацненьню баявой падрыхтоўкі.

---

У фойе пераможна выстраіліся экспонаты вынаходнікаў. Вось лыжныя ўстаноўкі Фрунзэўскага палка. Іх тры сыстэмы. Вынаходніцкая мысьль б'ецца над ўдасканаленьнем лыжнай устаноўкі, каб яна была трывалай і зручнай у баю. Зімовыя выхады ў поле выявяць якасьць усіх трох сыстэм, скажуць якой астацца існаваць. Каля іх — вынаходнікі — командзіры Салодышаў і Крывашэін.

Кулямёт „Максіма“, што стаіць радам, схаваў свой кажух і шчыт у белую паперу. Вынаходнік тлумачыць. — Кавалак белай паперы—і ў зімовых умовах кулямёт замаскаван.

У Церскім палку вынайшлі новы спосаб набіўкі патронаў у дыск кулямёта Дзегцярова. Раней дыск утрымоўваўся патронам. Патрон мяняўся праз кожныя чатыры набіўныя патроны (куля расхіствалася). Цяпер к дыску прырабілі кальцо, у выніку стала лягчэй набіваць патроны і самы працэс набіўкі ўскорыўся.

Чырвонаармеец т. Куц вынайшоў паходную кіно-перасоўку. Камандзір разьдзелу Скрэбцоў вынайшоў скрынку-палігон.

Работнік штабу дывізіі т. Гудзь вынайшоў штабны аўтомобіль. На манэўрах гэты аўтомобіль паказаў добрую якасьць і зьяўляецца прототыпам усеармейскага штабнага аўтомобілю.

Вось чарцёж вынаходніцтва вэтфельчара тав. Невінскага. У аснове вынаходніцтва ляжыць орыгінальная думка. Т. Невінскі прыстасаваў паходную кухню пад абмываючы пункт для людзей і коняй, якія падпадалі пад дзеяньне іпрыту. Да кухні прыроблена помпа і душ. Помпа гоніць ваду ў душ і пад душам абмываецца атручаны об'ект. Гэта вынаходніцтва мае ўсеармейскае значэньне.

Памкомузвод т. Усікаў вынайшоў лыжа-дрэзіну для кулямёта „Максіма“. У зімовых умовах, незалежна ад дарог, дрэзіна будзе рухацца са скорасьцю 8 *клм* у гадзіну.

У дывізіёне сувязі вынайдзена вучэбная тэлефонная трубка, якая дае магчымасьць байцу бачыць работу мэханізму тэлефону і мікрафону. Такая трубка паскарае вывучэньне тэлефону маладымі байцамі. Тав. Волкаў вынайшоў столік, пры дапамозе якога ў палявых умовах паскараецца ўстаноўка тэлефоннай станцыі.

Рад каштоўных вынаходніцтваў ёсьць у Н-скім палку. Тав. Старкоў мае 50 каштоўных вынаходніцтваў і прапаноў.

Камандзір эскадрону т. Сурменка прапанаваў спосаб ацяпленьня вадаправодных труб на канюшнях. Гэта дасьць магчымасьць папярэдзіць замярзаньне і псаваньне труб. Пры такім ацяпленьні зрываў вадапою коняй зімой ня будзе.

У Фрунзэўскім палку вынайдзена ружэйная піраміда на лыжах. Камандзір разьдзелу Церскага палку т. Панасенка вынайшоў піраміду для наганаў. Піраміда забясьпечвае рэвальвэры ад пылу і кражы.

Малодшы камандзір Анішчук прыстасаваў звычайны стол пад варштат для чысткі вінтовак. Да ножак стала прыроблены плянкі з гнёздамі. Стол перава-рачаецца ножкамі ўверх і варштат гатовы.

У Стаўропальскім палку ўдасканален спосаб нарыхтоўкі яды. Гэта дасьць магчымасьць да мінімуму скараціць рабочую сілу на кухні.

Дэлегаты зьлёту абмяняліся вопытам вынаходніцкай работы. Па-бальшавіцку раскрытыкавалі адмоўныя бакі, вузкія месцы вынаходніцкага руху.

Зьлёт вынес рад пастаноў.

Палепшыць кіраўніцтва вынаходніцкім рухам.

Стварыць у часьцях прэміяльныя фонды для прэміяваньня лепшых вынаходцаў і рацыяналізатараў.

Не марынаваць вынаходніцтва.

Шырока скарыстоўваць фото ў мэтах папулярызацыі лепшых вынаходнікаў і найбольш каштоўных вынаходніцтваў.

Організаваць у часьцях майстэрні вынаходніка, забясьпечыць іх інструмантамі і неабходнымі матэрыяламі.

Аглядаючы вынаходніцкую выстаўку, у галаву настойліва лезуць словы тав. Гамарніка:— „Мы маем у Чырвонай арміі надзвычайна добры чалавечы матэрыял“...

Надзвычайна добры чалавечы матэрыял плюс кіраўніцтва партыйных організацый, палітычных апаратаў, камандваньня і шырока разьвітая вышэйшая форма соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва—вынаходніцкі і рацыяналізатарскі рух— вось галоўныя фактары ўзмацненьня баявой гатоўнасьці Чырвонай арміі.



т. Старкоў



т. Крывашэін



т. Сурменка



т. Волкаў

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

# ТАК ПАЧНЕЦЦА ВЯСНА

Як узьцімецца вецер,
і прыдзе ноч,
сьнег паточаны шашалем сонца
растане
і прымчыцца з вясною,
як дальні госьць,
як дэпэша,
у колгас —
пасяўная.
Як адтане зямля
пад нагамі маёвых вятроў,
калі сьнег стане чорны
і мяккі, як мокрая губка,
тады іскрамі словы
будуць пырскаць з усіх правадоў,
дзень і ноч не змаўкацьме
тэлефонная трубка.
Так пачнецца вясна.
І нястрымнаю рыне паводкай
(па загаду дэпэш)
наш ударны колгас у палі,
папаўзуць трактары,
дзень вясновы
ім здасца кароткім,
як насунецца ноч на абшары
ўзьнятай ральлі.
І уночы па рэйках
вільготных і сьлізкіх
паімчаць цягнікі
эшалёнаў таварных хвасты —
гэта шле Гомсельмаш
трыеры, каб засеяць чыстым,
каб ніводнага каліва не пасеяць пустым.
Так пачнецца вясна,
і зямля, як вялікая станцыя,
будзе поўна людзей,
што канчаюць вясновы сеў;
і палі зашумяць
самай шчырай і плённаю працаю
ва ўнісон дыхэлям
трансфарматарам
і вясьне.
Гэтак прыдзе вясна
на абшары колгасных гэктараў,
і ральлю займжаць
буйным семям тады сяўнікі...
Прачытае ЦЭКА апарату морзэ ўдары:
„Сеў да тэрміну скончаны. Бальшавікі“.

Р. С. Ч. А. на будаўніцтве





# ХАЙ ЖЫВЕ XIV

**ПОЛІТЫКУ МІРУ МЫ БУДЗЕМ ВЕСЬЦІ І Ў Н СТУПНЫМ УСІМІ СІЛАМІ, УСІМІ СРОДКАІ НІВОДНАЙ ПЯДЗІ ЧУЖОЙ ЗЯМЛІ НЯ ХОЧА АЛЕ І СВАЁЙ ЗЯМЛІ, НІВОДНАГА ВЯРШІ СВАЁЙ ЗЯМЛІ НЕ АДДАМО НІКОМУ.**

**СТАЛІ**



Ударнікі эсмінца „Фрунзэ"

Балтфлёт. Палітвучоба на эсмінцы




Лёзунг правадыра сусьветнага пралетарыяту тав. Сталіна аб аўладаньні тэхнікай павінен стаць кіруючым пачаткам для чырвонаармейцаў і кампалітскладу. Чырвоная армія павінна накіраваць усе свае сілы на аўладаньне баявымі ведамі, тэхнікай і пільна сачыць за аховай заваяваньняў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Чырвоная армія—узброены атрад пралетарыяту — зьяўляецца адначасова і школай будаўнікоў сацыялізму. У барацьбе за індустрыялізацыю краіны, за бальшавіцкія тэмпы, чырвонаармейцы павінны быць заўсёды ў першых радох.

(З адозвы ЦК КП(б)Б).

НАРКОМВОЕН

т. К. Е. ВАРАШЫ



# ГАДАВІНА ЧЫРВОНАЙ АРМІІ


Балтфлёт. Палітвучоба на эсмінцы


Балтфлёт. Перадача выкліку на соцспаборніцтва.



ОЕНМОР

РАШЫЛАЎ

Пастаянная штодзенная ўвага справе абароны СССР, штодзенная канкрэтная дапамога Чырвонай арміі—такава задача ўсіх працоўных. Наша армія—узброены атрад сваёй клясы. Яна магутна цеснай сувязьзю са сваёй клясай, яна клясава сьвядома. Пралетары заводаў, фабрык і працоўныя калгасных палёў павінны яшчэ больш увагі зьвярнуць на шчыльную сувязь і сыстэматычную дапамогу Чырвонай арміі. Разьвіцьцём шэфскай сутаварыскай работы з часьцямі Чырвонай арміі, пралетарыят павінен яшчэ вышэй узьняць сьвядомасьць байцоў, перадаць ім лепшы вопыт ударных тэмпаў работы на фронце індустрыялізацыі, дапамагчы чырвонаармейцам тэхнічнымі ведамі.

(З адозвы ЦК КП(б)Б)


Вучоба ў Чырвонай арміі

СЭІТЫРО КАТУМОТО

# Вайна ў Манчжуры і Пролетарскія Пісьменьнікі Японіі

„Да якога лягеру мы далучымся, калі ўспыхне вайна супроць Савецкага Саюзу?..“ З гэтым пытаньнем Інтэрнацыянальнае Бюро рэволюцыйнай літаратуры ўлетку 1930 г. зьвярнулася да ўсіх пісьменьнікаў сьвету. Гэтае самае пытаньне было пастаўлена таксама і ў нас увосень 1930 г. перад усімі літаратарамі, мастакамі і мысьліцелямі NAPF (Цэнтральным Комітэтам усеяпонскіх пролетарскіх мастацкіх аб'яднаньняў). Некаторыя лібэралы адказалі на гэтае пытаньне з усьмешкай: „Гэта проста нейкі недарэчны жарт—ставіць гэткае фантастычнае пытаньне“. А разважныя людзі дык і зусім не адказалі. Так было год назад. А зараз гэта „недарэчнае“ пытаньне стаіць зусім рэальна і сур'ёзна перад імі і перад намі. Перад кожным стаіць пытаньне: ці далучаешся ты да пролетараў усіх краёў, у прыватнасьці да японскага пролетарыяту? Ці пераходзіш на другі бок, г. зн. да інтэрнацыянальнага імпэрыялізму, у прыватнасьці да японскага імпэрыялізму? На гэта кожны павінен адказаць! Бо японскі паход у Манчжуры азначае ня што іншае, як рабаваньне гэтай краіны, як узброеную інтэрвэнцыю супроць Савецкага Саюзу!

Мы лічым, што нам абсолютна неабходна заявіць аб сваёй вернасьці пролетарскай клясе, аб солідарнасьці з братамі і таварышамі ўсяго сьвету і абвясьціць, што рэволюцыйны пролетарыят Японіі ня гледзячы на шалёны белы тэрор выступае на рашучы бой не на жыцьцё, а на сьмерць супроць японскага імпэрыялізму.

У сучасны момант над усімі японскімі газэтамі, над усімі пэрыядычнымі выданьнямі распасьцёр сваю ўладарную руку японскі генэральны штаб. Найбуйнейшая лібэральная газэта „Асахі“, якая штодзенна разыходзіцца ў Осаке ў колькасьці 1,5 мільёна і ў Токіо ў колькасьці аднаго мільёна экзэмпляраў, даўно ўжо адкрыла свой сапраўдны твар і зрабілася органам пропаганды японскага генэральнага штабу. Усе артыкулы і паведамленьні, якія могуць пашкодзіць японскаму імпэрыялізму, не публікуюцца і не выпускаюцца за граніцу. Вораг японскага пролетарыяту праводзіць сваю кампанію, карыстаючыся ўсімі найбольш сучаснымі сродкамі пропаганды: бяздротавым тэлеграфам, фотографіяй, радыё, рознымі разавымі лісткамі выдавецкіх устаноў і больш чым сотняй спэцыяльных корэспондэнтаў. Ваеннае камандаваньне асыгнавала вялікую грашовую суму на корэспондэнцкую справу. Паведамленьні, якія шлюць у Японію замежныя газэтныя корэспондэнты, цэнзура зьмяняе паводле свайго жаданьня, або закрэсьлівае, з тым, каб трымаць японскі народ у цемры. Заграінчныя газэтныя выдавецтвы і корэспондэнцкія аб'яднаньні, якія маюць у Японіі сваіх спэцыяльных корэспондэнтаў, або канторы ня могуць паведамляць сапраўдных фактаў; а часам яны маўчаць аб іх па ўласным жаданьні, бо яны-ж таксама зьяўляюцца буржуазнымі ўстановамі. Пры такіх умовах надзвычайна цяжка нашым братом па ўсёй земнай кулі пазнаёміцца з сапраўдным станам змаганьня японскага пролетарыяту супроць імпэрыялістычнай вайны.

Ня гледзячы на гэта, інтэрнацыянальны пролетарыят хоча ведаць больш дакладна аб рэволюцыйнай дзейнасьці японскага пролетарыяту, аб тым, як у гэты важны момант працуюць японскія рабочыя і сяляне. Ці выканалі яны задачы пролетарскага клясавага змаганьня?

Мы сьмела адказваем:—Бязумоўна! Японскі пролетарыят ведае вельмі добра, што японскі імпэрыялізм зьяўляецца ня толькі ворагам пролетарыяту Кітаю, Корэі і Савецкага Саюзу, але што ён таксама і яго вораг. І ў барацьбе з гэтым ворагам мы не баімся сьмерці. Мы будзем адважна абараняць свае ўласныя позыцыі згодна бліскучым баявым традыцыям інтэрнацыянальнага пролетарыяту. Наш сёнешні пункт гледжаньня—гэта рэволюцыйная солідарнасьць з братамі Савецкага Саюзу, Кітаю і Корэі. Японскія імпэрыялісты добра ведалі, што заваявальная вайна, якая зараз адбываецца, азначае ня толькі напад на Кітай, але адначасова ўнутры японскай дзяржавы зьяўляецца рашучым наступленьнем супроць пролетарыяту.



Рыхтуем кадры грамадзянскай авіацыі

Калі падрыхтоўка ваеннага паходу ў Манчжурыю была амаль закончана, г. зн. у канцы жніўня мінулага году, у розных гарадох Заходняй Японіі было арыштавана прыблізна 200 рэволюцыйных рабочых. Зараз прасьледаваньне лютуе па ўсёй дзяржаве. Апрача таго японскія імпэрыялісты вынесьлі сьмяротныя прысуды тысячам раней арыштаваных комуністаў і спачувальнікаў і пагражаюць цяпер выканаць над імі прысуд. Ужо зараз некалькі комуністаў забіты ў турмах! Імпэрыялісты спадзяюцца, што ваенная экспэдыцыя будзе выхадам з сучаснага гаспадарчага крызісу.

Улетку мінулага году быў заснаваны рэакцыйны саюз, які складаецца з афіцэраў генэральнага штабу і запасных. Старшыня гэтага саюзу брат Мікады, прынц Чычыбу. У часе манчжурскіх падзей саюз гэты бязупынна ўзмацняўся і ўрэшце 17 кастрычніка, у дзень японскага нацыянальнага сьвята, пастанавіў ажыцьцявіць наступны плян: некалькі апранутых у мундзіры афіцэраў павінны зрабіць візыты дзяржаўнаму канцлеру і іншым міністрам (у Японіі існуе такі парадак, што апрануты ў мундзір афіцэр усюды павінен быць прынят) і пазабіваць іх стрэламі з рэвольвэраў. Потым яны меліся пайсьці да палацу Мікады і перад яго вокнамі зрабіць „харакіры“. Пад аховай 3-га палка—брат Мікады, прынц Чычыбу быў таксама афіцэрам у гэтым палку—ім было лёгка пранікнуць у палац. Пасьля таго як удасца дзяржаўны пераварот, ваенны міністр павінен быў быць узьведзены на пасаду дзяржаўнага канцлера. Сам кіраўнік ваеннага выхаваньня прыняў удзел у загаворы.

У часе вялікай катастрофы, зямлятрасеньня ў 1923 г., ужо была зроблена спроба такога дзяржаўнага перавароту, але яму перашкодзіла ўмяшаньне Злучаных Штатаў. (Гэту катастрофу скарыстала буржуазія, каб зрабіць крывавую лазьню японскім і корэйскім рабочым). У сучасны момант, чым больш буйныя прамысloўцы і фінансісты падтрымліваюць гэты плян, тым больш пажадана для японскіх імпэрыялістаў скрываць сапраўдныя весткі аб дзяржаўным пераваpоце, які рыхтуецца. Да сёньнешняга дня ніводная газэта ня мела магчымасьці паведаміць, у якой фазе разьвіцьця знаходзіцца зараз гэты плян. Падобны фашысцкі дзяржаўны пераварот можа здарыцца ў кожную хвіліну, бо на яго ўскладаюць вялікія надзеі буйныя прамыслоўцы і фінансісты. Зусім відавочна, што ва ўсякім разе об'ектам такіх ваяўнічых мерапрыемстваў зьяўляецца пролетарыят Японіі, Кітаю, Корэі і Савецкага Саюзу.

Але японскі пролетарыят не слабы! Кіраўнік КПЯ (Комуністычная партыя Японіі) таварыш Гаху Сако, які цяпер разам

## УЗБРОІМ ЗБОЖЖАСАЎГАСЫ МАШЫНАМІ




**Партыя комбайнаў для збожжасаўгасу „Камунар“ (Паўн. Каўк. край)**

з тысячамі іншых комуністаў сядзіць у турме, заявіў судзьдзі, што рэволюцыя ў Японіі, якая зараз набліжаецца, закончыцца перамогай пролетарыяту.

Мобілізацыя мас у розныя дні інтэрнацыянальных пролетарскіх кампаній—25 лютага, 1 мая, 1 жніўня і 6 верасьня—сапраўды сьведчыць аб тым, што японскі пролетарыят зрабіў вялікі крок наперад. На апошніх провінцыяльных выбарах у Осака ўпяршыню быў абраны дэлегатам кінуты ў турму таварыш Коіваі. Ён перамог усіх сваіх соцыял-дэмократычных ворагаў. „Правда“ паведамляла, што 7 лістапада (14 гадавіны рускай рэволюцыі) у Токіо дэманстравалі тры тысячы рабочых пад лёзунгам супроць імпэрыялістычнай вайны; з іх трыста былі арыштаваны. Масавыя арышты зараз усё шырэй практыкуюцца ў Японіі і ня гледзячы на гэта японскі пролетарыят увесь час вядзе нястрымнае наступленьне. Японскія пісьменьнікі ў гэты важны гістарычны момант паказалі масам сваю рэволюцыйную позыцыю.

У жніўні і верасьні радыё і газэты павінны былі ўзбуджаць у народзе ваяўнічы энтузіязм, ня гледзячы на гэта 19 і 20 верасьня адбыўся па ініцыятыве 14 рэволюцыйных культурных організацый вечар абароны „Баявога сьцягу“ („Сэнкі“). Гэты часопіс офіцыяльна не забаронены ў Японіі, але часьцей за ўсё здараецца, што ўвесь тыраж яго поліцыя конфіскуе і спальвае. Але братні „Сэнкі“ ўсё яшчэ жыве! Калі поліцыя конфіскуе ўвесь тыраж, зьяўляюцца нумары, надрукаваныя ў патаемнай друкарні, і яны даходзяць да рабочых і да сялян у вёсках. Па сваім знадворным выглядзе часопіс нагадвае журнал з узорамі мод і портрэтамі кіноартыстаў. Організаваць патаемную друкарню ў Японіі нячувана цяжкая справа, бо наша мова мае больш за 3000 друкарскіх знакаў.

У апошні час саюз пролетарскіх пісьменьнікаў пачаў выдаваць газэту „Бунчаку Шынбун“ (Літаратурная газэта). У адным спэцыяльным нумары абгаварваліся падзеі ў Манчжурыі. Апрача таго Саюз мяркуе выдаць цяпер яшчэ зборнік антыімпэрыялістычных апавяданьняў, поэтычных твораў і малюнкаў, напісаных і намаляваных самімі рабочымі і сялянамі. Гэта спроба азначае ня што іншае, як ажыцьцяўленьне рэзолюцыі Харкаўскага Конгрэсу, на якім было пастаноўлена, што рух пролетарскай літаратуры не павінен абмяжоўвацца дзейнасьцю пісьменьнікаў-профэсіяналаў, але павінен разьвівацца на базе найбольш актыўнага супрацоўніцтва рабочых і сялян. Пры гэтым надзвычайна важна адзначыць, што ажыцьцяўленьне гэтай рэзолюцыі пастаўлена ў цесную сувязь з пытаньнем аб „зьнішчэньні імпэрыялізму і абароне Савецкага Саюзу“. Некаторыя пролетарскія пісьменьнікі, якія жывуць у Токіо організуюць турнэ дакладчыкаў па ўсёй краіне.

У апошнія дні „Аб‘яднаньне прыяцеляў Савецкага Саюзу“ пачало выдаваць ілюстраваны часопіс „Прыяцель Савецкага Саюзу“ Зараз мяркуецца організаваць таварыства абароны інтарэсаў пролетарскай культуры, паводле тыпу І. Ф. А. у Германіі; пры яго дапамозе будзе праводзіцца генэральнае наступленьне супроць японскай культурнай рэакцыі. Адной з найбольш важных нашых задач зьяўляецца супрацоўніцтва з рознымі рэволюцыйнымі організацыямі па падняцьці культуры Карэі і Кітаю.

Ніжэйпамянёная антываенная работа, зразумела — толькі першы крок нашай работы. Але надзвычайна важна, каб кожны з нас выразна ўяўляў сабе значэньне сучаснай эпохі, г. зн. эпохі рэволюцый. Зараз у Японіі, калі баішся сьмерці, ня можна праводзіць ніякай антываеннай работы. Шэсьць членаў нашага Саюзу сядзяць у турме. Калі прыняць пад увагу іншыя галіны мастацтва (музыку, тэатр і г. д.), цык колькасьць арыштаваных даходзіць да 30, напрыклад, адзін выдатны пісьменьнік быў засуджан на два гады турмы затое толькі, што ён перадаў у КПЯ грашовую суму і даў прытулак некалькім таварышом па партыі. Другая пролетарская пісьменьніца звар‘яцела ў турме ад бязупынных пытак. Мы ведаем, што гэтыя выпадкі зьяўляюцца толькі прэлюдыяй белага тэрору. Саюз левых соцыял-дэмократычных пісьменьнікаў „Літаратурны фронт“ („Бунсэн“) на сваім восеньскім пленуме 25 кастрычніка, ня гледзячы на перасьцярогу інтэрнацыянальнага аб‘яднаньня рэволюцыйных пісьменьнікаў, зьмешчаную ў „NAPF“ і „New Masses“, пастанавіў, што ён будзе падтрымліваць толькі левую соцыял-дэмократычную партыю і змагацца з усімі астатнімі рэволюцыйнымі культ-організацыямі. Гэта ў сучасны момант з яго боку вялікая, незабыўная здрада японскаму пролетарыяту. Ад часу выбуху вайны апрача таго і некаторыя лібэралы, а таксама так званыя звышпартыйныя мастакі выступалі ў сваіх творах, як абаронцы японскага імпэрыялізму. Але ўсё гэта не саб‘е нас з правільнага шляху! У нас няма сумненьняў адносна таго, на чыім баку праўда, а на чыім баку хлусьня! І гэтую хлусьню мы будзем усё больш з кожным днём выкрываць!

Калі-б мы трусьліва капітулявалі перад японскімі імпэрыялістамі, дык гэта-б азначала ўзмацненьне японскага імпэрыялізму ў яго выразным імкненьні да інтэрвэнцыі супроць Савецкага Саюзу, да задушэньня кітайскай рэволюцыі. А таму змаганьне супроць японскага імпэрыялізму не зьяўляецца пытаньнем аднаго японскага пролетарыяту, але пролетарыяту ўсяго сьвету. А таму мы на Далёкім Усходзе кінем усе свае сілы на змаганьне і будзе абараняць свае позыцыі да таго часу, калі надыйдзе пераможная сусьветная рэволюцыя.

Прэч імпэрыялістычную заваявальную вайну!

Ніводнага салдата ў Манчжурыю!

На абарону Савецкага Саюзу і геройскай кітайскай рэволюцыі!

Хай жыве сусьветная рэволюцыя!

З нямецкай мовы пераклаў К. Даўкша.

РЫГОР СІМХОВІЧ

# ЗА БАЛЬШАВІЦКІЯ ТЭМПЫ

**(Калгас „Случ № 2“, Слуцкі раён)**

29 кастрычніка ЦО нашай партыі „Правда“ абвясьціла ўсесаюзны конкурс нізавых газэт колгасаў, саўгасаў і МТС на лепшую работу па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў. Гэты конкурс нізавых газэт, — пісала „Правда“,—павінен сабраць у адну магутную крыніцу ўсе намаганьні селькораў у гэтым іменна напрамку. „Зараз, калі селькоры ў асноўным сталі колгасьнікамі, іх цэнтральнай задачай зьяўляецца барацьба за лепшую арганізацыю колгаснай вытворчасьці“.

Штодзенка „За бальшавіцкія тэмпы“ колгасу „Случ“ улічыўшы палітычнае значэньне абвешчанага „Правдой“ усесаюзнага конкурсу, як сродку барацьбы за моцны колгас, 13-га лістапада 1932 году ўключаецца ў гэты конкурс. Штодзенка ад 14-га лістапада заклікае колгасьнікаў „У бой за ўсесаюзнае пяршынства. Раўненьне па ўдарніках“. З гэтага дня і пачынаецца ўзмоцненая барацьба за ўмацаваньне колгасу, за канчатковую ліквідацыю абязьлічкі на ўсіх вучастках работы, за правільны ўлік працы, за сапраўдную зьдзельшчыну, за організацыю працы і выяўленьне рабочай сілы для адыходніцтва.

СТФ—галоўны вучастак вытворчасьці колгасу „Случ“.

Непадалёку ад сьвінарніку пачалі закладваць фундамант сілоснае вежы. Сілосную вежу пабудавалі ў тэрмін. Плян сіласаваньня, дзякуючы барацьбе і штодзенкі і селькораў— перавыканан на 25 проц. Ня менш важнае пытаньне ўкамплектаваньне стада. Перад селькорамі і штодзенкай паўстала пытаньне датэрмінова выканаць пляны ўкамплектаваньня. У выніку разгорнутай работы 25 ударнікаў колгасьнікаў падпісалі дагавары на здачу сьвінаматак. Барацьба за 6 умоў тав. Сталіна ёсьць неадрыўная частка штодзеннай работы ў колгасе і ўся ўвага газэты накіроўваецца на гэты вучастак.



**Зьверху: член рэдкалегіі т. Самусэвіч і селькор т. Леановіч распаўсюджваюць газэты. Ніжэй—падрыхтоўка нумару газэты**








**Нумары штодзенкі колгасу „Случ“, у якіх зьмешчаны прапановы організаваць збожжавы фонд імя „ІІ-ой пяцігодкі“**

Організоўваецца другі рэйд брыгад друку з 22 чалавек па праверцы становішча ўліку працы, работы на млынах, праверкі рамонту сельскагаспадарчага інвэнтару, а таксама становішча ў аддзяленьні колгасу. Рэйд выявіў шмат недахопаў, якія пасьля абгаварэньня вынікаў на праўленьні колгасу былі практычнай работай зьнішчаны.

З нумару ў нумар газэта вядзе барацьбу за поўнае выкананьне плянаў загатовак, шляхам організацыі рэйдаў брыгад друку, падворных абходаў і правядзеньня агульных сходаў. Штодзенка, пад кіраўніцтвам парт'ячэйкі, дабілася значных перамог. Яна брала на буксір адстаючых і ў выніку процант выкананьня збожжазагатовак па сельсавету з 43 узьняўся да 85. Штодзенка выпушчае сыгнал, які наклейваўся па хатах зрыўшчыкаў загатовак, заклікаючы выканаць даведзеныя пляны і організаваць чырвоны абоз да 8-ай раённай партканфэрэнцыі. Сыгналы рабілі сваю справу. Яны ўзьдзейнічалі на тых, хто затрымліваў выкананьне загатовак.

— Трэба выканаць. Чаго чакаць — казаў Новік Пятрок, калі прачытаў сыгнал. І праз некалькі дзён выканаў поўнасьцю свой плян. Такіх прыкладаў было шмат.

Колгас перавыконвае плян збожжазагатовак і ўносіць сустрэчную лічбу 8 цэнтнэраў у падарунак 8-ай раённай партканфэрэнцыі.

Колгас „Зялёны клін“ Воўкаўскага раёну, Харкаўскай вобласьці УССР зьвярнуўся праз газэту „Родянское сяло“ да ўсіх колгасаў Украіны і СССР з заклікам арганізаваць збожжавы фонд 2-ой пяцігодкі імя тав. Сталіна. І тут штодзенка і селькоры ў першых радох. Яны першыя ў БССР праз сваю газэту „За бальшавіцкія тэмпы“ ўзьнялі пытаньне аб падтрыманьні выкліку колгасу „Зялёны клін“.

„Падтрымліваючы надзвычай каштоўнае пачынаньне і прапанову колгасу „Зялёны клін“,—пісалі селькоры,—заклікаем усіх колгасьнікаў і селькораў Случчыны і ўсёй БССР пасьледаваць гэтаму прыкладу“. На агульным сходзе колгасьнікаў у час пасяджэньня цэнтральнай і раённай конкурсных камісій па праверцы работы нізавых газэт была прынята пастанова аб унясеньні ў збожжавы фонд 2-ой пяцігодкі імя тав. Сталіна 2 цэнтнэры збожжа.

З мэтай падрыхтоўкі да 3-яй бальшавіцкай сяўбы і ажыцьцяўленьня 6-ці гістарычных умоў тав. Сталіна члены рэдкалегіі, селькоры штодзенкі і колгасьнікі ўзялі на сябе рад канкрэтных задач.



Загадчык гаспадаркі прымае адрамантаваныя плугі



Цэнтральная конкурсная камісія БССР па правядзеньні конкурсу „Праўды“ і раённая камісія ў колгасе „Случ“



Рэдактар штодзенкі т. Арабей робіць справаздачу цэнтральнай конкурснай камісіі

Выступленьне старшыні колгасу



Слухаюць даклад

Сілосная вежа





Брыгада друку штодзенкі ідзе правяраць падрыхтаванасьць да сяўбы

Рэйдамі брыгад арганізаваць сыстэматычную праверку ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб падрыхтоўцы і правядзеньні сяўбы. Праз агротэхнічны гурток організаваць работу па ауладаньні агротэхнікай, быць ініцыятарамі датэрміновага правядзеньня рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару, сваячасова стварыць насенны і кармовы фонд, а таксама прывесьці ў належны парадак усю цягавую сілу і збрую.

Узятыя абавязкі селькорамі і штодзенкай выконваюцца ў практычнай рабоце. Арганізоўваецца 3-ці рэйд брыгад друку па праверцы рамонту сельскагаспадарчых машын, ачыстцы і збору насенных фондаў і падрыхтоўцы збруі. У выніку гэтага рэйду быў вылучаны адказны загадчык гаспадаркі, павялічыліся тэмпы рамонту плугоў і колаў, праводзіцца ачыстка насеньня, заканчваецца рамонт збруі і г. д. 20-га лютага па прапанове штодзенкі арганізаваны пробны выхад у поле па праверцы падрыхтаванасьці да 3-яй бальшавіцкай сяўбы. У колгасе організаван агратэхнічны гурток, які наведваюць 30—40 ударнікаў-колгасьнікаў і брыгадзіраў. На СТФ і ў аддзяленьні выпушчаецца штодзенны бюлетэнь штодзенкі „За бальшавіцкія тэмпы“.

Асаблівую ўвагу ў справе падрыхтоўкі да 3-ай бальшавіцкай сяўбы газэта зьвярнула на ліквідацыю абязьлічкі зямель і арганізацыю брыгаднай работы. Гэта пытаньне шчыльна ўвязваецца з пастановай ЦК УсеКП(б) ад 4-га лютага аб організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў.

Малюнак работы штодзенкі калгасу „Случ“ паказвае нам што нізавы друк колгасаў, саўгасаў не павінен абмяжоўвацца рольлю агітатара і пропагандыста, што ён павінен быць яшчэ і колектыўным арганізатарам працоўных мас на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, на барацьбу за генэральную лінію партыі.



Рэдкалегія газэты



Чэчэнская аўтаномная вобласьць, колгас „Сунжанскі Араты“
Пагрузка малака

ФОТО З КІНОХРОНІКІ БДК І Ге-ГУРВІЧА

# БУДЗЬ ГАТОЎ ДА ПРАЦЫ І АБАРОНЫ



Сыстэма савецкай фізкультуры будуецца па комплексу значка „Гатоў да працы і абароны". Перад фізкультурнай організацыяй стаіць адказная задача—праз фізычную культуру падрыхтаваць працоўных да працы і абароны. Для Савецкай Беларусі ў 1932 годзе патрэбна ахапіць здачай норм на значок „гатоў" 210 тыс. З 18 лютага г. г. поўнасцю здаўшых—3500 чалавек.

Вакол гэтай лічбы зараз і перабудоўваецца ўся фізкультурная праца. Разгорнута масавая праца па здачы норм па лыжах.

Уперадзе ідзе Менск—здаўшых па лыжах 3000 чалавек. На другім месцы—Гомель. Пагранічны раён Койданава перавыканаў контрольную лічбу. Койданаўская організацыя цесна зьвязалася з чырвонымі пагранічнікамі і ўсю вучобу праводзіць сумесна. Койданаўскі раён з пагранічных раёнаў першы кандыдат на прэмію за падрыхтоўку працоўных да працы і абароны.

Фізкультура шырока разгорнута і на вытворчасьці. Швэйная фабрыка „Кастрычнік" (Менск) у асноўным афізкультурана. Уведзена вытворчая гімнастыка, ад якой павысілася продукцыйнасьць працы на 9 проц. На заводзе „Пролетары" (Гомель) фізкультурная гаспадарчаразрахунковая брыгада ўзнагароджана ордэнам працоўнага чырвонага сьцягу за выкананьне і перавыкананьне вытворчай програмы. Не павінна быць ніводнага працоўнага, які-б ня здаў норм на значок „Гатоў да працы і абароны".

М. Чышэвіч.



Койданава. Чырвон. пагран. здаюць нормы на значок „Гатоў да працы і абароны"

КОМСАМОЛЬСКІ ЛЫЖНЫ ПАХОД









Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ШАХМАТЫ № 4 (14)

Пад рэдакцыяй Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА

Задача № 35



Мат у 2 хады

Задача № 36



Мат у 2 хады

Задача № 37



Мат у 2 хады

## „XIV“

Гэты аддзел прысьвечаны XIV гадавіне Чырвонай арміі. Друкуемыя вышэй задачы належаць да так званай групы выяўленчых сымболічных задач. І сапраўды, з першай паглядае „X“, з другой „I“, з трэцяй „V“, а разам „XIV“. Складаць такія задачы значна цяжэй, чым звычайныя: па-першае, таму, што выгляд задачы павінен укласьціся ў патрэбную нам геомэтрычную форму, па другое, асноўныя прынцыпы складаньня шахматных задач для іх застаюцца непарушнымі: не павінна быць непатрэбных у задачы фігур, разьвязваньні не павінны пачынацца шахам, ня можа быць у адной задачы дзьвух разьвязкаў і г. д.

Усе задачы гэтага аддзелу вельмі цікавы. У першай на ўсе хады чорных маюцца адказы белых, і патрэбна зрабіць чакальны ход, і чорныя матуюцца. Такім чакальным ходам будзе 1. f5—f6!

У другой таксама ўсё гатова, але „нажаль“ у белых няма такога чакальнага ходу. І яны прымушаны зьмяніць старыя маты на новыя. Разьвязвае задачу 1. Фd5—d6! І ў трэцяй адзіным чакальным ходам будзе 1. Лc4—d4, што і разьвязвае задачу.

Чорныя прымушаны зрабіць ход і гэта іх губіць. Калі-б зноў быў-бы ход белых, яны мату-б ня далі!

Такое становішча, у якім ход таго альбо другога боку зьвязан з непажаданымі для сябе-ж вынікамі, завецца становішчам Zugzwang'у *).

У такім становішчы белыя, на першы погляд, у задачы № 36; у такіх становішчах чорныя ва ўсіх гэтых задачах пасьля хадоў белых.

Падрабязныя разьвязваньні гэтых задач наступныя:

№ 35. 1. f5—f6
Zugzwang.
1. . . . h4—h3. 2. Фh5 : h3 ×
1. . . . f4—f3. 2. Фh5—g5 ×

№ 36. Фd5—d6!
Zugzwang.
1. . . . Kpd3—c3, 2. Фd6—a3 ×
1. . . . Kpd3—e3, 2. Фd6—g3 ×

№ 37.. 1. Лe4—d4!
Zugzwang.
1. . . . Kc3—∽ 2. Лd4 : a4 ×
1. . . . Ka2—∽ 2. Ca5—b4 ×

*) Цугцвангу.

## ПАРТЫЯ № 3

**Іграла ў турніры на першынство РСЧА 26-X—31 г.**

| Смародзкі (КЧА) | Мерцалаў (Балт. флёт) |
|---|---|
| 1. d2—d4 | d7—d5 |
| 2. c2—c4 | c7—c6 |
| 3. Kg1—f3 | e7—e6 |
| 4. Kb1—c3 | Kg8—f6 |
| 5. Cc1—g5 | Cf8—e7 |
| 6. e2—e3 | Kb8—d7 |
| 7. a2—a3 | 0—0 |
| 8. Лa1—c1 | d5 : c4 |

У гэтым тут ня было ніякай патрэбы. Чорныя маглі з'іграць 8. . . . Kf6 — e4 і авалодаць ініцыятывай.

| | |
|---|---|
| 9. Cf1 : c4 | Kf6—d5 |
| 10. Cg5 : e7 | Фd8 : e7 |
| 11. Kc3—e4 | Kd5—b6 |
| 12. Cc4—a2 | Лf8—d8 |

Незразумела чаму чорныя нежадаюць адразу аслабаніць ігру ходам 12. . . e6—e5!, калі тады 13. d4—d5, то 13. . . c6 : d5 14. Ca2 : d5, Kb6 : d5, 15. Фd1 : d5, Kd7—b6! і белыя ня могуць іграць 16. Фd5 : e5? бо пасьля 16. . . . Фe7 : e5 17. Kf3 : e5, Лf8—e8 губляюць фігуру.

| | |
|---|---|
| 13. Фd2—c2 | h7—h6 |
| 14. Ca2—b1 | Kd7—f6 |

І тут яшчэ можна было аслабаніцца ходам e6—e5. Замест гэтага чорныя, іграючы нерашуча, застаюцца ў сьціснутай пазіцыі, пакуль праціўнік іх зусім ня скоўвае.

| | |
|---|---|
| 15. 0—0 | Cc8—d7 |
| 16. Kf3—e5 | Kb6—d5 |
| 17. Ke4—c5 | Cd7—e8 |
| 18. e3—e4 | Kd5—b6 |
| 19. Фc2—c3 | Лa—c8 |
| 20. b2—b4 | Лc3—c7 |
| 21. Лc1—d1 | Kf6—d7 |
| 22. Ke5 : d7 | Kb6 : d7 |
| 23. e4—e5 | Kd7—c5? |

Ня выкарыстаўшы некалькі раз магчымасьць аслабаніць сваю гульню, чорныя самі сябе прысуджаюць да пасыўнай абароны. Белыя пагражалі працягваць атаку рукам пешак f і g, а таксама пераводам каня праз e4 на d6. Чорным лепш усяго было абараніцца ад гэтага пераводам каня на d5, і пры патрэбе ахвярай якасьці на d6 за пешку. Пры выбраным працягу ў партыі, барацьба для іх стратэгічна праіграна, так яны адчыняюць праціўніку патрэбную лінію.

| | |
|---|---|
| 24. d4 : c5 | Лd8 : d1 |
| 25. Лf1 : d1 | Лc7—d7 |
| 26. Лd1—d6 ! | . . . . . |

Тыпічны для такіх становішчаў ход.

| | |
|---|---|
| 26. . . . . . | a7—a6 |
| 27. Фc3—d3 | g7—g6 |
| 28. h2—h4 ! | Kpg8—g7 |
| 29. g2—g3 | Лd7—c7 |
| 30. f2—f4 | Лc7—c8 |
| 31. Cb1—a2 | Лc8—c7 |
| 32. h4—h5 ! | Cc8—d7 |
| 33. Ca2—b3 | Kpg7—h7 |
| 34. Фd3—d1 | Cd7—e8 |

Чорныя ўжо ня маюць магчымасьць адбіць нажым белых у цэнтры і на каралеўскім флянгу.

| | |
|---|---|
| 35. h5 : g6 × | f7 : g6 |
| 36. Фd1—g4 | Лc7—d7 |
| 37. Лd6 : e6 | Лd7—d1 × |
| 38. Фg4 : d1 | Cc8 : e6 |

39. Фd1—d6 ! і чорныя здаліся, бо павінны праіграць фігуру.

Былы майстар А. Смародзкі правёў гэту партыю проста і моцна, аднак яго малады праціўнік іграў вельмі вяла.

## ЗАДАЧА № 14. Дэвіз „Жывём!“

(з бел. фэрз. на f6, а ня чорным)

.1. Kg5—f3 пагроза 2. Фf6 : f4 ×

Галоўныя варыянты гэтай задачы наступныя:

1. . . . . Kb4—d5 2. Kc4—e5 ×
1. . . . . Kb4—d3 2. Kc4—e3 ×

У гэтай задачы, на першы погляд, незразумела знаходжаньне белай ладзьдзі на a4. Зачым яна там? Навошта? Адказ даюць галоўныя варыянты задачы, калі яна выступае, як фігура, якая зьвязвае чорнага слана f4.

Становішча чорных фігур: каня b4 і слана f4 завецца паўзьвязваньнем—таму што ў першапачатковым становішчы яны вольны, пасьля таго, як конь b4, абараняючыся, пайшоў з чацьвертай роўніцы—аказаўся зьвязаным слон. Праўда, у гэтай задачы поўнасьцю паўзьвязваньне не рэалізуецца, што зьвязана з яго маскіроўкай белым канём c4, але ёсьць задачы, дзе паўзьвязваньне пры маскіроўцы выкарыстоўваецца поўнасьцю.

Вынік міжнародных конкурсаў будзе зьмешчан у № 10 „Чырвоная Беларусь“ за гэты год.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 643. 2000 экз. Галоўлітбел № 361.

Цана 15 кап.

# ДА ВЕСНАВОЙ ПАСЕЎНАЙ С.-Г. КАМПАНІІ 1932 г.

*(Пачатак глядзі часопіс „Чырвоная Беларусь" № 2)*

## ЛІТАРАТУРА ПА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАМУ СЭКТАРУ

СЕЛЬГАССЭКТАР ДВБ







СЕЛЬГАССЭКТАР ДВБ

36. Мяцельскі Т.—За аўладаньне агратэхнікай, за ўздым ураджайнасьці ільну.
37. Шэмпель В.—Азоцістыя ўгнаеньні.
38. Чуйко Г.—Аграномічныя мерапрыемствы па падняцьцю ўраджайнасьці зерневых бабовых культур.
39. Парахневіч П.—Досьледы з угнаеньнямі на балотных глебах БССР.
40. Зборнік.—Дырэктывы партыі па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў.
41. Зборнік.—Дырэктывы партыі і ўраду аб разгортваньні социялістычнай жывёлагадоўлі.
42. Лебедзевіч і др.—Догляд за сенажацямі і пашамі на балотах.
43. Лабадаеў.—Выканаем праграму трэцяй бальшавіцкай вясны.
44. Міцькоў.—Шэсьць умоў т. Сталіна ў колгасную вытворчасьць.
45. НДІ сьвінагадоўлі.—Поўнасьцю зьберагчы [illegible]рос.
 „ Сейце клубня-караньплоды для сьвіней.
46. Філарэтава і др.—Падрыхтоўка насеньня ільну і канапель да пасеву і яго захоўваньне.
47. Зеленцоў і др.—Барацьба з пустазельлем у гародніцтве.
48. Шаін.—Земляная груша—кармовая расьліна.
49. Уласенка і др.—За агротэхніку ў колгасах і саўгасах.
50. Інстытут мэхан.—Комбайн „Комунар".
51. Палескі.—Шляхам перамог (саўгас Новасёлкі).
52. Савельеў.—Цыян-амід кальцыю на ўгнаеньне.
53. Кайгарадаў А. І. проф.—Кароткі нарыс с.-г. кліматычных умоў БССР.
54. Карой.—Як організаваць работу МТС.
55. Фядотаў.—Віка звычайная, азімая двухгадовая.
56. Сьвірскі.—Культура бобу ў БССР.
57. Сараеў.—Рахіт у парасят.
58. Панацзіадзі.—Як колгасу асушыць балота.
59. Сяргееў.—Сурагаты кармоў для социялістычнай жывёлагадоўлі.
60. Бездэнко.—Гароднія шкоднікі і меры барацьбы з імі.
61. Феофанаў.—Пераробка аднакорпусных плугоў у двухкорпусныя.
62. Ганрыо.—Стукі ў рухавіках трактара „Фордзон" і ФП.
63. Шыперка.—Тарфяныя ўгнаеньні ў БССР.
64. Тупяневіч.—Барацьба са шкоднікамі ў садзе і гародзе.
65. Дрожжын.—Электрычнасьць у с.-г.
66. Лемеш.—Кармленьне племянных сьвіней, II выд.
67. Ліўшыц.—Убой сьвіней, продукты сьвінаводзтва і хваробы сьвінога мяса.
68. Страж.—Соя ў БССР.
69. Котт.—Сарнякі і дзікарастучыя расьліны на сілас.
70. Барадзенка.—Пошасныя хваробы жывёлы.
71. Ротэнштэйн.—Палявы рамонт трактараў і с.-г. машын.
72. Зборнік.—Інструкцыя па контрактацыі лёну і канапель.
73. Зборнік.—Контрактацыя збожжавых, бабовых і масьлічных расьлін і сена ўраджаю 1932 г.